www.nv-online.info

№ 70 (3811)

6 верасня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*



# Па коштах на бензін Беларусь падцягваецца да ўзроўню Расіі. А па заробках?

*Цяпер на аўтазапраўкі, як і ў гастраномы, лепш не заяўляцца. Цэны на паліва ўжо такія, што не кожнаму ўласніку патрыманай машыны па кішэні. Той жа 92-і бензін каштуе пасля падаражання 7,8 тысячы рублёў за літр. А за дызельнае паліва трэба выкласці яшчэ болей — 8,5 тысячы рублёў.*

*Калі ў Маскве за літр бензіну маркі А-92 трэба заплаціць у эквіваленце каля 8 тысяч беларускіх рублёў, то ў некаторых рэгіёнах Расіі яго кошт нават таннейшы. Так, у Кемераўскай вобласці ў пераводзе на беларускія грошы літр 92-га бензіну абыходзіцца ў 7,3 тысячы.*

*Цэны на паліва, як і на многае іншае, у Беларусі растуць, як грыбы пасля дажджу. А што з заробкамі? Дзе-нідзе яны нават падаюць. А да расійскіх заробкаў нам, беларусам, як да Месяца. За сярэднюю зарплату расіянін можа купіць 753 літры бензіну, а мы — толькі 422. Сярэдні паляк за свой месячны заробак мае магчымасць набыць 466 літраў бензіну, а, скажам, жыхар Люксембурга — 2344 літры.*

*А ўлады ўсё балбочуць пра нейкае павышэнне жыццёвага ўзроўню беларусаў. Можа, ён і павышаецца, але ў каго?*



ПОДРОБНОСТИ

## *Сколько миллионов насчитают Баумгертнеру?*

*Сумма ущерба, который, по версии белорусского следствия, нанесли стране фигуранты "дела Баумгертнера", может быть значительно увеличена. Об этом заявил пресс-секретарь Следственного комитета Беларуси Павел Траулько.*

Ранее Следственный комитет сообщал, что, по данным следствия, речь идет об ущербе на сумму 100 миллионов долларов.

*"В настоящее время мы не исключаем, что сумма ущерба может быть значительно выше. Это зависит от имеющихся в материалах дела доказательств, а также от результатов проверки финансово-экономической деятельности Белорусской калийной компании"*, — сказал Траулько.

Говоря о сумме в 100 млн долларов, он отметил, что *"эта цифра была взята следствием не из воздуха"*.

*"Речь уже шла об установленной на момент возбуждения уголовного дела сумме ущерба и хищений"*, — заявил представитель СК. *"Если быть точным, то в распоряжении следствия имелись данные о трех эпизодах преступной деятельности обвиняемых"*, — цитирует Траулько РИА "Новости".

АКТУАЛІІ



*Святлана КАЛІНКІНА*

# Пайшлі па свеце

**Толькі некалькі лічбаў, але разумнаму чалавеку больш нічога не трэба расказваць пра наша жыццё.**

**Па даных Федэральнай міграцыйнай службы Расіі, зараз у Расійскай Федэрацыі працуе 1—1,2 мільёна беларусаў. Прычым улічваліся толькі тыя, хто працуе ў суседняй краіне больш-менш стала, тры месяцы і болей.**

**Заўважу: усяго эканамічна актыўнага насельніцтва — маюцца на ўвазе не пенсіянеры і не дзеці — у нас 4,5 мільёна чалавек. Пры гэтым атрымліваецца, што кожны чацвёрты дарослы, працаздольны беларус вымушаны кінуць сям'ю, дзяцей, бацькоў і шукаць заробак за межамі радзімы, бо ў роднай краіне ён сёння пракарміцца не можа. І гэта калі ўлічваць толькі тых, хто афіцыйна зарэгістраваў свой статус у Расіі. А калі дадаць тых, хто не зарэгістраваўся ці з'ехаў у іншым напрамку, то глядзіце, каб не выйшла, што і кожны трэці.**

**Нібы вайна пракацілася па Беларусі. Дагуляліся ўлады з эканамічнымі законамі, дакіраваліся... Бабы, дзеці ды старыя — вось хто "падымае" нацыянальную эканоміку. У Мінску гэта не так заўважна, але калі выехаць ва ўсходнія рэгіёны, то адсутнасць мужчын ужо проста кідаецца ў вочы. І мы яшчэ дзівімся: чаму да "Дажынак" у Горках плітку паклалі так, што яна праз месяц правалілася, чаму сцены кватэр у новых дамах цвіллю пайшлі?.. А каму рабіць? Хто хоць нешта ўмеў — той даўно не марнуе свой час за капейкі ў Беларусі.**

**Ды што там плітка ці будоўлі?! Зуб вырваць — праблема, бо ў дзяржаўных стаматалагічных паліклініках у рэгіёнах проста не хапае ўрачоў. Каб зрабіць больш-менш сур'ёзныя аналізы, людзям трэба ехаць ажно ў абласныя цэнтры, а то і ў Мінск, хаця на двары XXI стагоддзе!**

**Пры гэтым сацыяльная служба настойліва запэўнівае, што ў Беларусі з работай усё добра, што па краіне шмат вакансій. Вось толькі самі на тыя работы і аклады не паквапіліся. Так, нядаўна тое ж Міністэрства сацыяльнай абароны абнавіла раздзел "Патрабуюцца". Брэсцкай абласной бальніцы, напрыклад, патрабуюцца ажно 32 медсястры. Заробак — 1 мільён 490 тысяч рублёў. Хто пагодзіцца? Можа, хоць міністэрскія сакратаркі?..**

**Саромеліся б увогуле гаварыць, што паўтара мільёна пры нашых цэнах — гэта заробак. Ці ўжо прызнаваліся б шчыра: крадзіце, хворых аб'ядайце, за кожны ўкол патрабуйце ўзнагароду, бо інакш выжыць нельга.**

**Каб не пенсіянеры, то ўжо зараз не было б каму нас ні лячыць, ні вучыць. Толькі яны, маючы такую-сякую пенсію, могуць дазволіць сабе працаваць за жабрацкія грошы. На многіх заводах адны пенсіянеры, у некаторых перыферыйных бальніцах адны пенсіянеры, у Акадэміі навук, у калгасах, у школах...**

**І мы яшчэ некага жыццю вучым, нечым хвалімся. Маючы пасля развалу СССР тэхналагічна самую перадавую краіну, усё праелі, усё прагулялі. Нехта абурыцца: маўляў, нічога не прагулялі, заводы ж не распрададзены. Дык гэта ўжо толькі сцены стаяць, а новых сучасных тэхналогій за імі няма. А вось што за гэтыя гады адбудавалі новага? Ад якога новага прадпрыемства, галіны, вынаходніцтва ў Беларусь пацякла валюта?.. Хіба што ад казіно — бізнесу бруднага. Хаця ў бюджэце і гэтых грошай асабліва не відаць.**

**Прапагандысты штодня старанна нахвальваюць нашу рэчаіснасць, але самі таксама работу за межамі краіны шукаюць. Які ўжо зацяты прыхільнік рэжыму Аляксандр Аверкаў, але нават ён спрабаваў збегчы ў Маскву. У кастынгу вядучых на расійскім Грамадскім тэлебачанні ўдзельнічаў. Ды толькі не ўзялі. Вось цяпер зноў вымушаны расказваць, якое цудоўнае жыццё ў Беларусі.**

**І міністр эканомікі Мікалай Снапкоў — што той казачнік-баюн. Як з яго слоў, дык проста дзіва, чаму Беларусь грошы па ўсім свеце пазычае, а не раздае: так у нас усё добра. Днямі Снапкоў заявіў, што ведае ў Беларусі як мінімум аднаго "продвинутого экономиста", якога трэба слухаць. І гэты геній, як няцяжка здагадацца, — Аляксандр Лукашэнка.**

**Дзякуй міністру за параду. Але за 19 гадоў беларусы ўжо так гэтага "генія" наслухаліся, што і дзяцей па свеце пусцілі, і самі пайшлі.**

ПАЛІТКУХНЯ

***У свой час "Народная Воля" не раз пісала пра тое, што незалежныя эксперты працуюць над прапановамі па ўнясенні змен у Выбарчы кодэкс. Пазней паведамлялася, што выніковы дакумент за подпісамі кіраўнікоў партый "Справядлівы свет", "Зялёныя", Партыі БНФ, "Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), руху "За свабоду", кампаніі "Гавары праўду!" накіраваны прэзідэнту, дэпутатам Нацыянальнага сходу, ураду, іншым уладным структурам. Але ж, як сведчыць нядаўняя нарада ў Лукашэнкі, ніводная сур'ёзная папраўка, прапанаваная апазіцыйнай групоўкай, не трапіла ў новы законапраект.***

***Зыходзячы з лёсавызначальнай важнасці праблемы, "Народная Воля" вырашыла не замоўчваць яе, а па-ранейшаму прыцягваць увагу грамадскасці да неабходнасці дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў Беларусі. А таму сённяшняе пытанне да тых, хто, вобразна кажучы, атрымаў ад варот паварот. Яго мы сфармулявалі так:***

# Ніводная ваша папраўка не трапіла ў новы выбарчы законапраект. Якіх далейшых дзеянняў з вашага боку можна чакаць?



## Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

*— Мы будзем ствараць кааліцыю "За чэсныя і справядлівыя выбары дзеля лепшага жыцця", каб вярнуць людзям права выбару. Ёсць некалькі інструментаў уздзеяння. Першы — аказваць ціск, каб выбарчыя правілы былі зменены. Для гэтага ёсць яшчэ міжнародны і ўнутраны рэсурсы.*

*Другое: прапаноўваць такія дзеянні, якія істотна павялічаць колькасць удзельнікаў палітычнага працэсу. Успомніце, на пачатку 1990-х сотні тысяч людзей былі ўдзельнікамі гэтага працэсу, бо ў іх была такая матывацыя. Нам трэба выбраць аднаго чалавека — лідара прыхільнікаў перамен, і выбраць яго павінна вялікая колькасць тых, хто хоча змен у краіне. Выбар персанальнай альтэрнатывы, я лічу, можа стаць матывацыяй для людзей.*

*А калі з'явіцца лідар, за якога прагаласавалі сотні тысяч чалавек, ён зможа дыктаваць уладзе свае ўмовы. Скажам, патрабаваць, каб падчас выбараў былі яго прыхільнікі ў складзе выбарчых камісій. Такая фігура з'явіцца, калі за яе прагаласуе большасць людзей. Для гэтага патрэбна народнае галасаванне. Калі нехта прапануе нешта іншае, то я гатовы падтрымаць.*



## Сяргей КАЛЯКІН, старшыня партыі «Справядлівы свет»:

*— Сэнс кампаніі "За чэсныя і справядлівыя выбары дзеля лепшага жыцця" ў наступным: не нейкія партыі, а самі людзі павінны запатрабаваць вярнуць ім права выбару. Калі нехта думае, што дэмакратычныя актывісты вырашаць гэтую задачу, то ён памыляецца. Мы самі не ў стане гэта зрабіць. Але мы ў стане патлумачыць людзям: калі яны скардзяцца на тое, што не могуць даць сваім дзецям вышэйшую адукацыю ці атрымаць якаснае медыцынскае абслугоўванне, калі з імі па-скоцку абыходзяцца на працы — гэта толькі ад таго, што мы, беларусы, страцілі права выбіраць сабе кіраўнікоў.*

*Адным словам, усе перспектывы так ці інакш звязаны з тым, ці будуць людзі мець права выбіраць. Праца па інфармаванні людзей будзе доўжыцца не толькі падчас выбарчых кампаній, а ўвесь час.*

Як высветлілася, кіраўнікі партый, якія раней падпісалі выніковы дакумент для ўнясення змен у Выбарчы кодэкс, цяпер увайшлі ў кааліцыю "За чэсныя і справядлівыя выбары дзеля лепшага жыцця". Таму ўсе іх адказы аказаліся падобнымі і так ці іначай тычацца дзейнасці новай кампаніі "За чэсныя і справядлівыя выбары дзеля лепшага жыцця". Афіцыйна аб яе старце будзе аб'яўлена ўжо ў верасні. Таму з падрабязнасцямі палітыкі просяць пачакаць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## АД РЭДАКЦЫІ

**Чуем: будзе праведзена кампанія "За чэсныя і справядлівыя выбары дзеля лепшага жыцця"...**

**Колькі самых розных палітычных кампаній аб'яўлялася ў апошнія гады? І што? Усё заканчвалася пшыкам.**

**Мала ініцыяваць чарговую акцыю, важна, каб яна была не міфічнай, праводзілася не дзеля піяру, а з'яўлялася рэальнай сілай.**

**Вось паважаны Сяргей Іванавіч Калякін кажа: *"...Мы ў стане патлумачыць людзям: калі яны скардзяцца на тое, што не могуць даць сваім дзецям вышэйшую адукацыю ці атрымаць якаснае медыцынскае абслугоўванне, калі з імі па-скоцку абыходзяцца на працы — гэта толькі ад таго, што мы, беларусы, страцілі права выбіраць сабе кіраўнікоў"*. Усё правільна, але ж дзе гэтыя *тлумачэнні?* Мы што, кожны дзень чытаем пра сустрэчы Сяргея Іванавіча і яго паплечнікаў з шараговымі людзьмі? Колькі пікетаў, мітынгаў, шэсцяў правяла партыя "Справядлівы свет" за апошнія шэсць месяцаў? Колькі ўлётак распаўсюдзіла? У рэшце рэшт, колькі тлумачальных артыкулаў надрукавалі ў розных СМІ (незалежных) тыя ж "новыя камуністы"?**

**Гаворка ідзе не толькі пра "Справядлівы свет". Заціхлі і ўсе астатнія партыі. Калі нешта і робіцца, дык, хутчэй за ўсё, дзеля птушачкі. Няма Пазьняка — няма і магутнай хвалі апазіцыйных сіл. Устрапянуцца тады, калі ўжо будзе позна. Успомніце, як было ў 2010 годзе. Як чорт з табакеркі павыляталі кандыдаты ў прэзідэнты за некалькі тыдняў да выбараў. Ні адзінага лідара, ні адзінай праграмы, ні адзінага сцэнарыя. Людзей паклікалі ісці на плошчу Незалежнасці. Але ніхто не сказаў, дзеля чаго туды трэба ісці. І вынік — сотні чалавек апынуліся за кратамі, а некаторыя — на некалькі гадоў.**

**Калі нехта думае, што лёс краіны, лёс народа вырашыць чарговая Плошча, то такое меркаванне выклікае вялікі сумнеў. І тут ёсць рэзон у словах С.Калякіна: трэба *працаваць* з людзьмі. Так, так, не займацца балбатнёй, а *працаваць*. Працаваць з рабочымі трактарнага завода, з шахцёрамі Салігорска, з камбайнабудаўнікамі Гомеля, са студэнтамі і выкладчыкамі сталічных і несталічных ВНУ, з пенсіянерамі... Працаваць не адзін дзень у месяц, а штодня, з ранку да глыбокай ночы, а то і да раніцы.Той, хто не можа так працаваць, не мае права называцца палітыкам. Як не мае права падманваць людзей пустазвонствам, якое ніколі і нікога да Перамогі не прыводзіла.**

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

## *Фотограф Юрий ИВАНОВ:* «Времена не выбирают. В них живут...»

Фотограф Юрий Иванов мастер. Известный в стране и за рубежом. Его работы считают образцами несколько поколений белорусских художников.

Сегодня в Витебском художественном музее *(ул. Ленина, 32)*, в одном из престижных залов города, открывается фотовыставка Юрия Иванова ***"Между белым и черным".*** Эта выставка, начиная с Минска, объехала уже немало городов Беларуси, побывала в Брюсселе и Вильнюсе. В каком-то смысле это ретроспективная экспозиция Юрия Иванова — он представляет свои работы с 1960-х годов. Хотя и фотографий нового времени хватает. Но тем интересней сравнить их и увидеть, что люди красивы, когда искренни. Что люди счастливы, когда честны перед собой. Что люди мудры, когда думают о будущем своих детей.

Кстати, эту выставку Юрий Иванов посвятил 100-летию со дня рождения своих родителей.

*Некоторые фото с выставки фотомастера Юрия Иванова* ***смотрите на 4-й полосе*** *"Народной Воли".*

**Елена МОЛОЧКО.**



УЖАС!

## *В Молодечно эвакуировали учеников из 10 школ и гимназий*

Сообщения об опасности, поступившие по почте, представляли собой отпечатанный на принтере текст и содержали требование перевести 10.000 долларов США на конкретный электронный кошелек. Предупреждалось, что в случае отказа в переводе денег произойдет взрыв и погибнут дети. Все письма были отправлены из Молодечно.

*"Учащиеся и преподавательский состав учебных учреждений были незамедлительно эвакуированы,* — сообщает пресс-служба Следственного комитета. — *По состоянию на 16 часов 30 минут 05.09.2013 г. на предмет наличия взрывных устройств осмотрены все учреждения образования: взрывных устройств не обнаружено".*

Возбуждено уголовное дело. Действия злоумышленников квалифицированы как заведомо ложное сообщение об опасности, повлекшее тяжкие последствия.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 ВЕРАСНЯ 2013 г.

# Зварот

## сябраў Арганізацыйнага камітэта Беларускага Народнага Фронту, утворанага 19 кастрычніка 1988 года, да 25-годдзя БНФ "Адраджэньне"

**Дарагія суайчыннікі!**

**Неўзабаве, 19 кастрычніка сёлета, спаўняецца чвэрць стагоддзя ад моманту, калі на гістарычным пасяджэнні ў будынку касцёла Св. Сымона і Алены (тагачаснага Дома кіно) на прапанову Зянона Пазьняка, падтрыманую Васілём Быкавым, быў утвораны Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", гонар працаваць у складзе якога выпаў і на нашую долю.**

**Ужо ў першай сваёй заяве Аргкамітэт выступіў за перабудову грамадства на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, за суверэнітэт Беларусі, за падпарадкаванне эканомікі інтарэсам чалавека, за сацыяльную справядлівасць, за прававую дзяржаву, за экалагічна чыстую Беларусь, за адраджэнне і дзяржаўнасць беларускай мовы. А ў першай Праграме была абвешчаная галоўная мэта БНФ — свабодны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі. Бо не можа захаваць незалежнасць несвабодны народ.**

**Дзякуючы актыўнасці жывога беларускага грамадства, намаганням тых франтаўцаў, якія былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання і мясцовых саветаў, і тых, што ў розных гарадах узначалілі барацьбу народа за будучыню сваёй краіны, беларусам удалося вырашыць галоўную гістарычную задачу — 25 жніўня 1991 года заканадаўча замацаваць незалежнасць Беларусі і дамагчыся яе міжнароднага прызнання.**

**Інтэлектуальны патэнцыял сябраў БНФ, іх актыўная і самаахвярная праца дапамаглі нашай краіне, асабліва на пачатку 1990-х гадоў, пачаць увасабленне ідэй і праграмных мэт Беларускага Народнага Фронту. Менавіта Беларускі Народны Фронт на пачатку 1990-х гадоў заклаў падмурак дэмакратычнай шматпартыйнасці і парламентарызму ў Беларусі. А гераічная Вясна 1996 года прадэманстравала нашу рашучасць і волю ў абароне Незалежнасці і Свабоды ад замахаў антыбеларускіх сіл.**

**На жаль, далейшае ўнутрыпалітычнае развіццё Рэспублікі Беларусь, неспрыяльная геапалітычная сітуацыя пакуль не дазволілі належным чынам здзейсніцца ўсяму, пра што мы марылі чвэрць стагоддзя таму. У дзяржаве вядуць рэй тыя, хто топча свабоды, хто нішчыць падмурак незалежнасці — нацыянальныя каштоўнасці і беларускую мову, хто цягне нашу краіну ў новаімперскія цянёты. Але ж мы маем сотні тысяч аднадумцаў, франтаўцаў паводле сваіх перакананняў. Мы ўпэўнены, што ўсіх нас не пакіне абыякавымі 25-годдзе заснавання Беларускага Народнага Фронту — руху за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны і свабоду яе народа.**

**Заклікаем усіх грамадзян Беларусі, усіх беларусаў, якія падзяляюць франтаўскія каштоўнасці і не збіраюцца мірыцца з таптаннем або дыскрэдытацыяй франтаўскіх ідэалаў, ушанаваць юбілей заснавання Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", вярнуць духоўнае і інтэлектуальнае лідарства тым колам грамадства, якія адстойваюць незалежнасць, свабоду і нацыянальна-культурнае Адраджэнне як непарыўныя ідэалы. Няхай у гэтай справе нас яднаюць спрадвечныя нашы герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг.**

**Жыве Беларусь!**

**Ніл ГІЛЕВІЧ, прафесар, народны паэт Беларусі,**
**Рыгор БАРАДУЛІН, народны паэт Беларусі,**
**Аляксей МАРАЧКІН, сябра Саюза мастакоў,**
**Алег ТРУСАЎ, дацэнт, старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны",**
**Мікола КУПАВА, сябра Саюза мастакоў,**
**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, прафесар,**
**Пётра САДОЎСКІ, дацэнт, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь,**
**Вінцук ВЯЧОРКА, намеснік рэдактара часопіса "Спадчына",**
**Генадзь ТУМАШ, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў,**
**Алесь СУША, журналіст, прадпрымальнік, першы рэдактар газеты "Навіны БНФ",**
**Анатоль ВАРАВА, музейны работнік,**
**Павел ЗЬМІТРУК, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

*"Віншую сябраў Аргкамітэта БНФ "Адраджэньне" з надыходзячай датай 25-годдзя ўтварэння БНФ у кастрычніку гэтага года. Ухваляю зварот сябраў Аргкамітэта да грамадзян Беларусі з заклікам падтрымліваць ідэалы БНФ, дэкляраваныя 25 гадоў таму, якія прывялі наш народ да дзяржаўнай незалежнасці Беларусі і перамогі над камунізмам. Далучаюся да зместу Звароту. Вітаю сябраў Аргкамітэта".*

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

*Варшава, 3 верасня 2013 г.*

*"Лічу, што адзначыць 25-я ўгодкі пасяджэння ў Чырвоным касцёле — гэта вельмі слушная задума. Зварот падтрымліваю".*

**Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*Бабруйск, турма № 2, 22 жніўня 2013 г.*

ПЕРАМОВЫ

## Абліць брудам, а потым ісці на паклон...

Першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка ў чацвер правёў у Маскве перамовы з намеснікам старшыні расійскага ўрада Аркадзем Дварковічам — тым самым, пра жонку якога апошнім часам шмат расказвалі беларускія тэлеканалы, бо яна мае некаторае дачыненне да "Уралкалия". Абліўшы візаві брудам, цяжка разлічваць на лагодны прыём. Так яно і адбылося.

Аркадзь Дварковіч выставіў Сямашку поўны спіс прэтэнзій: ад арышту гендырэктара "Уралкалия" Уладзіслава Баўмгертнера да нерэалізаваных сумесных праектаў з МАЗам, "Пеленгам", іншымі прадпрыемствамі. Ён таксама нагадаў, што аб'ёмы пастаўкі сырой нафты на беларускія НПЗ Расія ад пачатку ўвязвала з рэалізацыяй усіх гэтых дамоўленасцяў. Ну а калі не — дык і па нафце адказ "не". Беларусь просіць, каб Расія паставіла ў гэтым годзе 23 мільёны тонн нафты, але Масква пагаджаецца толькі на 18,5 мільёна тонн. Да таго ж бярэцца за праверку якасці беларускіх прадуктаў, якія пастаўляюцца на расійскі рынак, і нават за іх "біяграфію", бо ёсць падазрэнне, што пад відам сваёй мы пастаўляем прадукцыю і іншых краін.

Карацей, увязаліся мы ў сур'ёзную бойку. І тут ужо не сто мільёнаў долараў можам згубіць, як у "Беларускай калійнай кампаніі", а значна больш.

Перамовы ў чацвер скончыліся нічым. Прэс-служба расійскага ўрада асабліва падкрэслівае, што далейшае развіццё падзей "будзе залежаць ад сітуацыі ў цэлым".

Нагадаем, што калій і нафта — асноўныя пастаўшчыкі валюты ў беларускі бюджэт. І па абедзвюх пазіцыях зараз нанесены мацнейшы ўдар. У той жа час Сямашку ў закладнікі ў Маскве не ўзялі, у СІЗА не кінулі. Хаця маглі б...

**Алег СНОЎ.**

## Стыпендыяльная праграма Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча «Gaude Polonia»

*Нацыянальны цэнтр культуры аб'яўляе конкурс на атрыманне стыпендыі ў рамках стыпендыяльнай праграмы Міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча "Gaude Polonia". Праграма "Gaude Polonia" прызначана для маладых дзеячаў культуры і перакладчыкаў з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.*

*Кандыдаты павінны валодаць польскай мовай на базавым узроўні.*

*Заяўкі прымаюцца **да 15 кастрычніка 2013 года**.*

*Падрабязную інфармацыю аб Праграме і бланкі анкет можна атрымаць на інтэрнэт-старонцы http://www.nck.pl/kategorie/gaudepolonia.html і ў Нацыянальным цэнтры культуры ў Варшаве (тэл. +48 22 210 01 21, e-mail: bogumila.berdychowska@nck.pl), а таксама ў Польскім інстытуце ў Мінску (Мінск, вул.Валадарскага, 6; тэл. (8017) 200-63-78, (8017) 2009581).*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*



# Теперь считать мы стали раны

Экономика Беларуси, к сожалению, не выздоравливает. Объем ее ВВП за январь—июль прирос по сравнению с аналогичным периодом прошлого года на те же 1,4%. Промышленное производство в минусе на 4,5%. Другие показатели — не лучше.

Запасы готовой продукции по-прежнему велики и на 1 августа составили 3,3 миллиарда долларов, или 74,4% среднемесячного ее выпуска при норме не более 50%. За этот же период сальдо внешней торговли товарами составило минус 1 миллиард 160 миллионов долларов, тогда как в прошлом году оно было плюс 86 миллионов долларов. Экспорт сократился на 23,3%, импорт — на 9,5%. Снизились абсолютная масса прибыли от реализации продукции и рентабельность этой продукции. Жизнь продолжает дорожать. С 1 сентября тарифы на электроэнергию для населения повышены на 11,8%. За последние дни лета Минэкономики повысило цены на хлеб и хлебобулочные изделия в среднем на 10%. Не забыли и водку. Повышены на 45% ставки акцизов на бензин и на 70% — на дизтопливо, что вылилось в очередное повышение цен на все моторное топливо.

Хотя по факту бюджет выполнен с начала года с профицитом, плановые абсолютные показатели недовыполнены, и весьма существенно. По оценке Минфина, к концу года республиканский бюджет недосчитается 9 триллионов рублей (1 миллиард долларов) налоговых поступлений. По таможенным пошлинам недополученные доходы оцениваются в 3 триллиона рублей. По итогам года бюджет недополучит 6 триллионов рублей от налога на прибыль. Ожидается, что второе полугодие для бюджета будет значительно сложнее первого. В бюджет 2014 года заложены рост ставки НДС с 20% до 22%, дальнейший рост акцизов.

Россия покупает у нас все меньше. За первое полугодие Беларусь продала в Россию тракторов в стоимостном выражении на 18,6% меньше, чем за этот же период в прошлом году. Седельных тягачей — на 41,9% меньше, грузовиков — на 40,9%. Экспорт дорожной и строительной техники снизился на 15% и т.д. Но на российский рынок пришлось 42,5% отечественного экспорта, то есть большая часть. На страны Евросоюза — 30,1%, на остальные страны СНГ — 16%, на прочие — 11,4%. Уменьшение поступлений валюты, пассивный торговый баланс страны делают свое дело: только в августе официальный курс доллара вырос на 1,24% — первый показатель среди стран СНГ. На днях он взял символический рубеж в 9000 рублей за "зеленый". В России за август доллар подрос на 1,09%, в Украине курс не менялся, в Казахстане и странах Балтии — снижался к местным валютам. Если считать изменение белорусского ВВП по растущему курсу доллара, то, вероятнее всего, оно будет за год отрицательным.

Словом, дела идут ни шатко ни валко. А тут сенсационная новость — арест генерального директора российского "Уралкалия". Не буду вдаваться в юридические аспекты этого дела, они уже достаточно освещены в прессе, а вот с экономической точки зрения недавний выход "Уралкалия" из альянса с "Беларуськалием" в рамках проведения единой сбытовой политики через Белорусскую калийную компанию сулит Беларуси потери в сотни миллионов экспортных долларов из-за спровоцированного этим демаршем ожидаемого снижения цен на мировом калийном рынке. Москва сразу отреагировала на арест высокопоставленного гендиректора-бизнесмена, пусть хоть и частной компании. Как заявил А.Дворкович, нас ожидает в сентябре сокращение поставок нефти на 400 тыс. тонн, а вместо заявленных на год 23 млн тонн Беларусь получит 18,5 млн, т.е. до конца года наши НПЗ получат только 3,5 млн тонн сырой нефти вместо ежеквартальных 5,25 млн тонн.

Наш экспорт за последние годы стал еще более энергосырьевым. Так, если доля так называемых промежуточных товаров в 2003 году в белорусском экспорте занимала 62,3%, то в 2012 году она уже превысила 70%. Причем доля энергетических товаров (в основном нефть и нефтепродукты) увеличилась соответственно с 20,7% до 35%.

Упомянул А.Дворкович и аферу с белорусскими растворителями-разбавителями, которая обошлась российскому бюджету потерей 1,5—2 млрд долларов. Во всяком случае подрыв двух главных экспортных позиций Беларуси — калийных удобрений и нефтепродуктов — может уже до конца года привести к непредсказуемым последствиям для ее экономики. На этом фоне попытка России поставить со стороны своего главного санитарного врача Г.Онищенко в очередной раз заслон экспорту белорусского молока и свинины смотрится, как всегда, анекдотично и уже кажется мелочью. Однако новая "мясо-молочная война" уже ударила по экспорту белорусских предприятий соответствующего профиля.

Разрыв между ростом зарплаты и производительностью труда продолжает увеличиваться и достиг уже 8 раз. Власти на него давно не обращают внимания. Они озабочены другим — набирает силу отток в Россию белорусских кадров. Не только строителей, квалифицированных производственников, но и врачей, компьютерщиков, специалистов другого профиля. При существующих ценах на товары и услуги средняя зарплата даже в 600 долларов их никак не устраивает. Белорусская экономика, как известно, открытая и малая. ВВП России при населении 143 млн человек составляет порядка 2000 млрд долларов, или 13,7 тыс. долларов на душу населения, и обеспечивает около 1000 долларов среднемесячной зарплаты в эквиваленте (в Москве — не меньше 2000). ВВП Беларуси — 55 млрд долларов при населении 9,5 млн, или 5,8 тыс. долларов на одного жителя. Для сравнения: население Чехии — 10,2 млн, при ВВП 193 млрд долларов там выходит на душу 18,9 тыс. "зеленых"; в Дании — 5,6 млн человек, ВВП — 309 млрд, а на человека получается 55,1 тыс. долларов. В Австрии проживает 8,2 млн населения, и при ВВП 391 млрд долларов, как говорится, на брата выходит 47,7 тыс. долларов.

Эти данные, конечно, наглядно показывают, где мы, а где они. Но сегодня белорусов беспокоит ближайшая перспектива: как мы доживем до конца года, если совсем рассоримся с Россией? У нее великое множество инструментов давления на так называемое союзное государство. Беларусь может не получить последний транш кредита Антикризисного фонда ЕАБР, не говоря уже о новой кредитной программе, о которой уже попросило правительство страны. Может приостановиться кредитование Россией строительства Островецкой АЭС. И много еще чего. Банковские вкладчики вновь задаются вопросом: не обвалится ли курс доллара? Если мы недополучим валютной выручки из-за санкций Москвы, которыми она уже грозит, Нацбанк имеющимися в его распоряжении финансовыми инструментами, как, например, поддержание высоких процентов на рублевые депозиты, валютные интервенции на бирже, проблемы не решит.

И что, власти в свое очередное оправдание сошлются на происки Кремля? А может, Кремль стерпит, как уже терпит? В Беларуси две российские военные базы, создается третья. На носу совместные военные маневры. К тому же — хрупкий Таможенный союз. Обрушишь экономику союзника — кто его подберет? Кто-то подберет! Пользуясь тем, что Москва в известном смысле стала заложницей белорусского руководства, белорусская сторона может создать препятствия в транзите российской нефти в Европу. Тогда найдет коса на камень. Поэтому, как бы ни было некомфортно олигархической экономике России "дружить" с авторитарной государственной экономикой Беларуси, а приходится. И придется. По сообщениям прессы, 5 сентября в Москве назначена встреча российского и белорусского вице-премьеров. Какова будет повестка дня, нетрудно догадаться.

ПЕРСОНЫ

*Виктор КАМЕНКОВ:*

# «После инсульта уже восстановился»

*"Народная Воля" выяснила, чем сегодня занимается экс-глава Высшего Хозяйственного суда Беларуси Виктор Каменков.*

Освобождение от должности Каменкова было неожиданным — публичных нареканий или претензий со стороны главы государства в его адрес как бы и не было. Как, впрочем, и официальных комментариев после подписания соответствующего указа. Главой ВХС Каменков был 12 лет. За эти годы он сделал немало полезного для развития хозяйственных судов Беларуси. В последнее время активно занимался созданием электронной системы правосудия. Негативных отзывов в прессе о его работе встречалось мало, тем не менее его уход все равно успел обрасти всевозможными версиями и слухами. Злые языки твердили: мол, об истинных причинах увольнения профессора Каменкова в курсе лишь ограниченный круг представителей силовых спецслужб, и все дело — в коррупции! Однако до сегодняшнего дня подтверждения этой "засекреченной" версии не нашлось.

Через пару дней после опубликования президентского указа об освобождении от должности "Народная Воля" разыскала Виктора Сергеевича в Республиканской больнице медицинской реабилитации в Аксаковщине. Тогда комментировать последние события он отказался, заметив: *"Сейчас не до этого..."*

Теперь Виктора Каменкова можно встретить в БГУ. Как и раньше, он заведует кафедрой финансового права и правового регулирования хозяйственной деятельности юридического факультета БГУ. Не исключено, что Каменкову поступали и другие предложения о трудоустройстве: как правило, специалисты с такими связями и опытом работы — на вес золота. И в одном из своих откровенных интервью Каменков признавался, что по натуре — трудоголик и не боится любой работы с детства. И уже тогда прогнозировал, чем будет заниматься после отставки с поста главы ВХС.

"*Меня сейчас вполне устраивает моя занятость*, — говорил семь лет назад в одном из своих самых откровенных интервью "Вестнику Высшего Хозяйственного Суда" Каменков. — *Она, я считаю, достаточно большая. Режим у меня примерно такой: подъем в 5 утра, а спать ложусь около 22 часов. И это стало образом жизни. Один из моих сыновей однажды сказал: "Ты привык работать настолько, что не представляешь жизнь по-другому". Поэтому я думаю, что после отставки с этой трудностью придется бороться в первую очередь...*

*Мое кредо в жизни только одно: оставаться человеком, независимо от занимаемой должности. Никакая должность, никакое кресло не остается с человеком навсегда. Каждый родился человеком и должен умереть человеком. Когда по разным причинам оставляешь должность, но люди по-прежнему продолжают здороваться с тобой и уважают тебя — это самое главное в жизни".*

Сегодня от подробного разговора про здоровье, отставку и прочие дела Каменков отказался.

*— Честно говоря, у меня времени на интервью не хватает,* — сказал он "Народной Воле". — *Состояние здоровья нормальное — восстановился после инсульта, больше ничего не могу сказать. А что касается отставки и слухов, то... Не хочу руководствоваться слухами. И вам не советую.*

***— Вы написали заявление об уходе с должности по собственному желанию? Или узнали о том, что больше не руководите Высшим Хозяйственным судом уже в клинике?***

*— Нет, не по собственному. Не вытягивайте, пожалуйста, из меня ответы, потому что больше я вам ничего не могу сказать...*



Кстати: кресло председателя Высшего Хозяйственного суда Беларуси до сих пор вакантно.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

# Виктор Голованов стал ректором

*Он уже почти год руководит частным учреждением образования "БИП— Институт правоведения".*



А учредитель этого института доктор юридических наук, профессор **Степан Сокол** является советником ректора БИП — так написано на институтском сайте.

Прежний ректор БИП **Сергей Самаль** нынче возглавляет НИИ теории и практики государственного управления Академии управления при президенте.

Голованов возглавлял Министерство юстиции 10 лет. Как уже сообщалось, за годы его работы в Минюсте не было зарегистрировано ни одной (!) политической партии. Голованов включен в список белорусских чиновников, которым запрещен въезд на территорию Евросоюза. После событий 19 декабря 2010 года правозащитники и международная юридическая общественность неоднократно заявляли о серьезном давлении Минюста на белорусскую адвокатуру.

За что его сняли с должности? Сам Голованов об этом публично не рассказывал. Бродила версия, что он якобы однажды употребил свой министерский вес для решения вопросов личного характера, однако громкого продолжения эта история не получила.

*"Достаточно объективный руководитель,* — такую характеристику сегодня дают ректору Виктору Голованову некоторые его подчиненные. — *Правда, немного бюрократичный. С его приходом стало больше бумажной волокиты — сейчас все по бумажкам, приказам, совещания регулярно проводит..."*

Еще в минувшем году Голованов в Институте правоведения читал лекции на факультете повышения квалификации. А в его бытность министром юстиции студенты БИП проходили практику в Минюсте. Он руководил курсовыми и некоторыми дипломными работами студентов.

В своем рабочем кабинете Голованов появляется рано. По словам секретаря, *"иногда и в 7 часов утра приходит"*. А когда она уходит с работы, он, бывает, еще остается.

Стоит заметить, что за два дня журналисту "Народной Воли" так и не удалось переговорить с бывшим чиновником. Он не мог отвлечься даже на пару минут! Смешно, но министру Голованову через приемную или помощника дозвониться было гораздо проще, чем ректору Голованову!

"*Дело в том, что сейчас начало учебного года и очень много вопросов*, — объясняет секретарь ректора. — *У нас и численность набора упала, и преподавателей приходится сокращать, сейчас идет объединение кафедр, а это все очень серьезные и болезненные вопросы. Поэтому он очень занят..."*

**Марина КОКТЫШ.**

НА ЗАМЕТКУ

## Мінчан, якія пакутуюць на алкагольную залежнасць, закадзіруюць бясплатна

*Адпаведная акцыя па бясплатным кадзіраванні і "падшыўцы" адбудзецца ў сталіцы з 7 па 12 кастрычніка.*

Ініцыятар акцыі па бясплатным лячэнні мінчан, якія пакутуюць на алкагольную залежнасць, — камітэт па ахове здароўя Мінгарвыканкама.

### Што трэба?

Неабходныя ўмовы для жадаючых прайсці дадзеную працэдуру:
— наяўнасць пашпарта;
— устрыманне ад ужывання алкаголю на працягу 7 і больш дзён.

### Куды ісці?

Вул.Валгаградская, 63 ("падшыўка"), тэл.: 280-04-42, 280-48-15.

Вул.Маякоўскага, 162 ("падшыўка"), тэл.: 223-79-85, 285-00-08.

Вул.Алтайская, 64/1 ("падшыўка"), тэл. 242-39-97.

Вул.Гастэлы, 16 ("падшыўка"), тэл.: 203-61-66, 226-81-55.

Вул.Брылеўская, 6 ("падшыўка"), тэл. 219-00-50.

Вул.Тарханава, 16 ("падшыўка" + кадзіраванне), тэл.: 203-15-72, 203-26-72.

Вул.Перадавая, 11 ("падшыўка" + кадзіраванне), тэл.: 299-99-96, 245-86-13.

Вул.Чыгладзэ, 22 ("падшыўка" + кадзіраванне), тэл.: 250-92-98, 250-96-70.



ГЛАС НАРОДА

# Лучше увидеть Минск, чем Париж

*Сейчас многие обсуждают ситуацию с арестом директора "Уралкалия". Скажу так:* ***все-таки увидеть Минск и сесть лучше, чем увидеть Париж и умереть…***

**С.АЛЕКСАНДРОВ.**

*Бобруйск.*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Адно слова — жабракі

Маёй сястры з Масквы спатрэбілася льняное семя. Яна папрасіла мяне купіць. Я купіў паўкіло. Прыйшоў на пошту, каб адправіць. Запытаўся ў паштовай работніцы, колькі каштуе перасылка, і аказалася... 180 тысяч рублёў.

Толькі вар'ят мог падняць да такой ступені цану на перасылку. У маім выпадку перасылка аказалася ў 26 разоў даражэй за цану "грузу" (0,5 кг ільносемені каштуе 7 тысяч рублёў).

Паспрабуйце паехаць у сталіцу саюзнай дзяржавы, туды-назад вы заплаціце адзін мільён рублёў. Палова пенсіі! Мала хто ездзіць.

Я ніколі не быў на магіле бацькі, бо трэба ехаць да Абакана. Білет туды-назад каштуе ўжо шэсць мільёнаў рублёў. Як пенсіянеру з двума мільёнамі пенсіі здзейсніць сваю мару?

Далей. За тэлефон аддаеш пад 200 тысяч рублёў, пры гэтым баімся пагаварыць лішнюю хвіліну, калі тэлефаную дачцэ ў Санкт-Пецярбург ці сястры ў Маскву. Вось табе і саюзная дзяржава: людзі баяцца нават пісаць пісьмы, бо канверт у Расію каштуе даражэй за буханку хлеба.

Можа, за мяжой і такія тарыфы, дык у іх заробкі і пенсіі ў дзясяткі разоў большыя, і яны могуць і па гадзіне размаўляць з абанентам у Беларусі. І ездзіць яны могуць па ўсім свеце. І віншаваць мільёны сабак на Новы год, высылаючы ім паштоўкі ў канвертах. А мы што можам? Адно слова — жабракі.

**Цімафей МАКАРАНКА.**

*Віцебск.*

КРИК ДУШИ

# Моя короткая очередь на жилье

Два десятка лет я спасал и спасаю людей. И никогда не думал, что власть накажет меня так жестоко...

Я прапорщик, служу в системе Министерства по чрезвычайным ситуациям. Имею статус военнослужащего со всеми вытекающими отсюда не только обязанностями перед государством, но и правами.

В частности, белорусским законодательством предусмотрено право перевода военнослужащих к месту проживания родителей, если те являются пенсионерами. Мало того, что мои родители пенсионеры, так мать еще инвалид второй группы, а отец имеет тяжелое заболевание суставов.

Поэтому два года назад я и воспользовался этим правом. 1 августа 2011 года был переведен из Слонима в Минск и назначен водителем реанимационного автомобиля МЧС. Прописался с женой и тремя детьми в двухкомнатной "хрущевке" своих родителей. И сразу же, 10 августа, стал на учет нуждающихся в улучшении жилищных условий.

"Социально ориентированное" государство гарантировало мне как многодетному военнослужащему получение льготного кредита на строительство жилья в течение года.

На бумаге — хорошее у нас законодательство. А вот как сложилось у меня на практике.

Через 10 месяцев администрация Заводского района исключила меня, многодетного военнослужащего с больными родителями-пенсионерами, из очереди нуждающихся в улучшении жилищных условий.

Как оказалось, в день, когда я был поставлен на учет, 10 августа 2011 года, вступил в силу указ А.Лукашенко №346, запрещающий в течение 10 лет ставить в Минске граждан в очередь на жилье.

Естественно, что не знал об этом я — простой гражданин. Но администрация района как орган государственной власти обязана была об этом знать! И чиновники не должны были ставить меня на учет.

Это во-первых.

Во-вторых, как я считаю, названный указ противоречит уже действовавшим на тот момент другим законодательным актам. В частности, закону о нормативно-правовых актах, которым установлено, что акты, "касающиеся прав, свобод и обязанностей граждан, вступают в силу только после их официального опубликования". То есть указ №346, на основании которого меня вышвырнули из очереди, не имел права вступить в силу 10 августа 2011 года, так как не был еще опубликован.

Но чиновникам на это наплевать. Все они упорно игнорируют ошибочность даты вступления в силу президентского указа.

В апреле 2013 года Заводской районный суд принял решение в мою пользу, приняв во внимание тот факт, что на очередь я был поставлен до того, как указ №346 должен был вступить в законную силу.

Но администрация района, набедокурившая сначала с моей постановкой на очередь, а потом с исключением меня из очереди, обжаловала это решение в Минском городском суде. И городской суд встал на сторону чиновников.

Я, конечно, сдаваться не собираюсь. Уже обратился в прокуратуру, так как подозреваю наличие в моей истории некой коррупционной схемы. Буду обращаться в Конституционный суд с просьбой проверить конституционность указа №346.

Мне есть за что бороться. Будучи уверенным, что законодательство гарантирует мне улучшение жилищных условий, я по дешевке продал свой домик в Слониме. Вырученные деньги давно потратил на аренду съемного жилья в Минске. А что делать? Жить-то семье где-то надо.

В итоге остался без домика в Слониме и без права на улучшение жилищных условий в столице. Даже права на льготный кредит лишился.

Знай я раньше такой расклад — ни за что бы не менял место службы и не переводился бы в Минск.

Но вот, поди ж ты, доверился родному государству, которому прослужил более 20 лет.

Моя родная Беларусь загнала меня в тупик. Меня, мою многодетную семью и моих больных родителей.

**Сергей БЕЛИК.**

*Минск.*

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Перачытайце Пазьняка 20-гадовай даўніны!

Апошнім часам у крамах і аўтобусах толькі і чуеш размовы, разважанні, спрэчкі людзей наконт падзей на "Беларуськаліі" і яго падзельнікаў. Разважанні розныя, нават супрацьлеглыя...

Глыбокапаважаны галоўны рэдактар "Народнай Волі" спадар Сярэдзіч! Вы, магчыма, памятаеце артыкул Зянона Пазьняка *"О русском империализме и его опасности"*, надрукаваны ў "Народнай газеце" 15—17 студзеня 1994 года. Вы тады былі галоўным рэдактарам той, яшчэ дэмакратычнай газеты. Вось перачытваю сёння той артыкул Пазьняка і разумею, наколькі прадбачліва ён разумеў стаўленне расійскіх палітыкаў і алігархаў да Беларусі. Такое ўражанне, што ён быў надрукаваны не амаль 20 гадоў таму, а сёння! Магчыма, добра было б, калі б той артыкул З.Пазьняка перадрукавала тая ж "Советская Белоруссия". Гэта ўваскрэсіла б памяць старэйшага пакалення, і сапраўдную ісціну ведалі б тыя, хто толькі нарадзіўся ў 1994 годзе.

**З вялікай павагай —**

**Мікола КАНАХОВІЧ, афіцэр у адстаўцы.**

*г.Пружаны.*

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

# Слабаки вылетают первыми!



Обсуждение темы очередного вылета отечественных футбольных команд из европейских клубных турниров уже набило оскомину, но, поверьте, с этими постоянными неудачами болельщики никак мириться не хотят! А футбольных чиновников такая ситуация, видимо, устраивает, потому что они не расстаются со своими удобными креслами.

Почему я заостряю внимание на еврокубках? Да потому, что весь прогрессивный футбольный мир именно по результатам матчей Лиги чемпионов и Лиги Европы определяют настоящий уровень мастерства клубных команд матушки Европы. На мой взгляд, постоянные вылеты ведущих белорусских футбольных клубов говорят о плачевном состоянии нашего футбола. И чем раньше мы это признаем, тем лучше.

Борисовский футбольный клуб БАТЭ из Лиги чемпионов вылетел после двух первых матчей. Обыграл нашего чемпиона "Шахтер" из Караганды. Честно говоря, не ожидал от БАТЭ такой бесцветной, безвольной игры. Из Кубка Европы один за другим вылетели и солигорский "Шахтер", и минское "Динамо", чуть дольше задержалась команда "Минск", но конечный результат двух матчей 1:5 был в пользу бельгийского "Стандарта".

Как признал главный тренер "Минска" **Вадим Скрипченко**, бельгийцы переиграли нас во всех компонентах. Думаю, комментарии излишни...

Все по заслугам и по мастерству. Нашим клубам противостояли команды, которые не хватают звезд с неба. И такие печальные уроки европейского футбола белорусские футбольные клубы получают регулярно, но плохо, что эти уроки не идут впрок!

Думаю, все наше футбольное хозяйство нуждается в определенных преобразованиях. Особое внимание нужно обратить на наш чемпионат. Извините, но он просто хилый! Видимо, у наших футбольных чиновников обо всем этом голова не болит. Да и зачем, ведь приличные бонусы они получают регулярно...

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси, болельщик с 60-летним стажем.**

ЗАДУМАЕМСЯ...

# Карову забралі немцы, а апошнюю свінню — партызаны...

*У "Народнай Волі" за 13 жніўня надрукаваны досыць цікавы і вельмі патрэбны сёння артыкул, які распавядае пра кошт хлеба, а яго аўтар звяртаецца да чытачоў, каб яны выказалі свае меркаванні на гэтую тэму.*

Я мяркую так: каб ведаць цану хлеба, трэба ведаць, як яго здабываюць, а то цяперашняя моладзь думае, што батоны на дрэве растуць. Мне хлеб нагадвае маё дзяцінства ў ліхалецце Айчыннай вайны, як мы працавалі, каб мець лустачку хлеба і не памерці з голаду.

Мы жылі ў вёсачцы, што вёрст 50 ад Мінска. Днём нас рабавалі немцы, а ноччу — партызаны. У нас карову забралі немцы, а апошнюю свінню — партызаны. Свіння была паросная, і мы пашкадавалі яе калоць, пакуль не апаросіцца, але партызаны не пашкадавалі ні пяцярых малых дзяцей, ні паросную свінню. Крыўда ў тым, што яна пайшла не ў агульны партызанскі кацёл, а на баляванне кучкі ўзброеных людзей. Увесь 1942 год і да вызвалення (ліпень 1944 г.) мы скаромніны і ў вочы не бачылі. Праўда, хлеб і бульба ў нас былі.

У хатцы 6 на 6 метраў нас жыло васьмёра: наша бабуля 1853 года нараджэння і сем'і яе двух сыноў. Дзве нявесткі, у адной двое, у другой трое дзяцей. Купляць што-небудзь не было дзе і за што. Соль і сахар нам толькі сніліся, але ж жылі і вельмі шмат працавалі. Цяглавай сілы не было. Аралі і сеялі жыта і ячмень самі. Шасцёра цягнулі плуг, а я, як старэйшы, ішоў за плугам. Бульбу садзілі пад лапату. Збожжавыя, калі паспеюць, жалі сярпом, вязалі снапы і ставілі іх у бабкі штук па дзесяць, а зверху такую кучку снапоў накрывалі яшчэ адным. У добрае надвор'е снапы абівалі, а зярно на ветры праветрывалі і чыстае закопвалі ў зямлю, гэта значыць хавалі.

Кепска схаваў — забяруць немцы ці партызаны, і памірай з голаду. Зярно трэба змалоць на млыне, а да яго восем кіламетраў. На бязмене адвешваў пуд зерня, закідваў за плечы — і пехам. А на млыне чарга, бывала, за два дні не ўправішся, а ў кішэні толькі лустачка хлеба ці пара зварaных у шалупках бульбін. Хлеб пяклі самі. Ёсць такая пасудзіна — дзежка, гэта накшталт цэбра, драўляная пасудзіна на 20—30 літраў. У ёй замешвалі цеста, дзежку ставілі ў цёплае месца. Дражджэй не было, але цеста падыходзіла добра, другі раз нават з дзежкі вылазіла. Часта ў цеста дабаўлялі бульбу, бо шкадавалі муку. Але з бульбай хлеб не такі смачны, быў і глеўкі. Добра напальвалі печ, вуглі разгортвалі і на чыстую распаленую цэглу клалі ляпёшку цеста, з якой выпякаўся добры бохан хлеба. Ляпёшку стараліся класці не на голую цэглу, а падкладвалі кляновыя лісты. Іх заўжды нарыхтоўвалі шмат. Печ зачынялі заслонкай. Адна выпечка — 6—8 булак хлеба, і нам хапала на дзесяць, а то і больш дзён. Дабаўлю: каб пакласці ляпёшку цеста на распаленую цэглу, карысталіся драўлянай лапатай. На яе клалі кляновы ліст, а потым ляпёшку. Вось так нам даставаўся хлеб, і той, хто гэта ведае, будзе пільна яго берагчы. Як бачым, у сельскай мясцовасці хлеб можна было мець, а як выжывалі людзі ў горадзе, мне не вядома, але, думаю, ім было яшчэ цяжэй, можа, хто зацікавіцца і напіша пра гэта.

Цяперашнія людзі, асабліва моладзь, не дай Бог якое здарэнне, мусіць, яго не перанясуць, бо не ведаюць, як жыць і як самім здабыць лустачку хлеба, калі яго няма ў краме ды і самой крамы няма. Усяму гэтаму трэба вучыць.

Раней казалі: "Хлеб усяму галава" і "Будзе хлеб — будзе і песня". Цяпер гэтага не чуваць, затое грубасць, бескультур'е, мацяршчына на кожным кроку. Людзі сталі злаблівыя. Хочацца, каб чытачы "Народнай Волі" пісалі пра гэта...

**М.А.ДУДАРЭВІЧ.**

*Мінск.*

НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Іванава каханка



Іван Міхайлавіч Чыбісаў (прозвішча і імя зменены) трапіў на бальнічны ложак, калі пасля цяжкага захворвання спатрэбілася аперацыя. Паехаў на заробкі ў Расію, а вярнуўся амаль без грошай і з грозным дыягназам. Жонка, калі яшчэ жылі разам, асабліва не цікавілася здароўем Івана, а калі ён захварэў, то наогул кінула яго. Спачатку знайшла палюбоўніка, а потым і скасавала шлюб. Дзяцей пасля трох гадоў сумеснага пражывання, так бы мовіць, не нажылі. Жонка вінаваціла ў гэтым Івана, хаця на самай справе, як потым высветлілася, бяздзетнай аказалася сама. Таму Івана ў бальніцы рэдка хто наведваў. Калі наступалі выхадныя дні і ўрачоў, апроч дзяжурных, не было, суседзі па палаце раз'язджаліся па дамах. Іван выходзіў за вароты бальніцы і бязмэтна бадзяўся па ваколіцах, паглыблены ў свае змрочныя думкі.

Аднойчы яго спыніла незнаёмая жанчына:

— Мужчына, падкажыце, калі ласка, як нам адсюль лепш паехаць на аўтобусе, з якога прыпынку?

Іван спытаў, куды жанчыне трэба ехаць, і, паколькі рабіць яму ўсё роўна не было чаго, падахвоціўся праводзіць. Па дарозе разгаварыліся. Жанчына з пяцігадовай дачкой прыязджала да сваёй хворай сяброўкі. Аўтобуса працяглы час не было, маці дастала з сумкі булачку, працягнула дачцэ, і малая пачала ўсухамятку есці. Іван хуценька крутануўся да бліжэйшага "камка", купіў дзіцяці шакаладку і напой. Валянціна — так звалі жанчыну — распавяла Івану пра свой няўдалы шлюб, хаця замуж выходзіла па каханні. Развод справакаваў былы муж. Стаў сябраваць з чаркай...

Іван у сваю чаргу падзяліўся сваёй бядой... Калі падруліў аўтобус, ён спытаў:

— Вы калі яшчэ прыедзеце?

Адказу ён не пачуў, але наўздагон — дзверы аўтобуса яшчэ не зачыніліся — крыкнуў:

— Я ўсё роўна праз тыдзень буду на гэтым месцы вас чакаць!

Іван ляпнуў так не падумаўшы, але праз тыдзень на прыпынак усё ж прыйшоў. Хутчэй па той жа прычыне — ад няма чаго рабіць.

Але, на радасць Івану, жанчына з дачкой там яго чакала. З таго часу Іванава жыццё змянілася ў лепшы бок. Ён відавочна павесялеў, а наяўнасць станоўчых эмоцый — вам скажа любы ўрач — для выздараўлення найлепшы фактар.

Валянціне Іван, бясспрэчна, спадабаўся: ціхі, спакойны, разважлівы і добразычлівы. Не лайдак, не п'яніца, таму і зачасціла жанчына ў палату. Пасля аперацыі не адыходзіла ад Івана, пакуль ён не стаў на ногі. Іван збрыў бараду, пачаў кожны дзень галіцца, а калі атрымаў грошы па чарговым лістку непрацаздольнасці, аддаў іх Валянціне.

— Хто гэта да цябе так часта прыходзіць? — цікавіліся суседзі па палаце.

— Жонка, хто ж яшчэ? — адказваў Іван. А вочы, якія ён спрабаваў схаваць, ззялі радасцю і шчасцем.

З Іванам Міхайлавічам мы землякі. Я — з Фаніпаля, ён — з Дзяржынска. Мяне, натуральна, цікавіў далейшы лёс земляка. Час ад часу тэлефанавалі адзін аднаму, але аднойчы выпадкова сустрэліся ў Дзяржынску. Прывіталіся, успомнілі сумеснае лячэнне ў Бараўлянах. Іван з радасцю паведаміў, што з Валянцінай яны ў законным шлюбе. Са здароўем усё наладзілася. Сям'я чакае папаўнення. Спадзяюцца, што будзе сын. Запрасіў да сябе.

Я вельмі задаволены, што выпадковае знаёмства стала для сябра лёсавызначальным. Вось такая нявыдуманая гісторыя кахання...

**Анатоль ШАРАЕЎ.**

*г.Фаніпаль.*

РЕЗОНАНС

# Не жаловаться нужно на зарплаты, а думать, где и как заработать!



В одном из минувших номеров "Народной Воли" журналист Марина Коктыш сравнила зарплату грузчика и артиста. Я тоже артистов ругать не собираюсь. Но... Грузчик грузит и макароны, и патроны, и... Как прикажут... И эта профессия, судя по объявлениям, сегодня востребована. А люди искусства — свободные художники.

Были ли у древних майя или египтян театры — я не знаю. Но зрелища были! По нашим понятиям, отвратительные! Кто их содержал и зачем — науке не известно. Но не государство!

Хочу сказать, что не жаловаться нужно на низкие зарплаты, а думать, где и как заработать! Садальские и Безруковы пашут на трех работах. А я, к примеру, на одной. Но получается, что из своей одной зарплаты я, как налогоплательщик, наших артистов "кормлю". Зачем? Я и сам не знаю. Повышают ли мне артисты "культурный тонус" или еще что — тоже не знаю...

Вывод банальный: свободный художник обязан зарабатывать сам.

Это, конечно, шутливый "разбор полетов во сне и наяву". А как правильно летать и на чем, я и сам не знаю. А вы?..

**С.АЛЕКСАНДРОВ.**

*Могилевская область.*

ДИСКУССИЯ

# Пора ввести дорогостоящие лицензии на разведение и продажу животных

Нас раздражают, а порой и пугают бездомные животные, бегающие в одиночку или стаями (так им легче выжить) в наших микрорайонах, сельской местности, по территории дачных кооперативов и заброшенных хуторов. С приходом осени и холодных проливных дождей, с закрытием дачного сезона количество брошенных на дачах домашних питомцев не поддается счету. Коты и собаки, которые радовали нас своим присутствием, вдруг оказались ненужными ни детям, ни взрослым. Это ли не повод для цивилизованного общества бить тревогу?

Но, увы, никто этого не замечает, никого это не волнует, и никто за это не несет ответственности. Судьба этих горемычных четвероногих зависит от сердобольных и нищих пенсионеров и уставших от жестокости и равнодушия нашего общества зоозащитников и волонтеров зоозащитного движения. Жестокое обращение с животными уже давно стало нормой жизни нашего общества, но только почему-то этого никто не замечает. Отсутствие зоозащитного законодательства и зоозащитной Фемиды препятствует решению даже самых незначительных проблем в пользу животных. А проблем не просто много, а очень много!

Зоозащитники возмущены условиями содержания собак на строительных объектах города. Голодные и обезвоженные, привязанные цепью к арматуре или к импровизированной будке, порой травмированные и ограниченные в движениях, они несут "охранную службу" данной территории. На место погибших или сбежавших со стройки собак приходят новые из ГП "Фауна города" или по объявлению из газет, помещенных в разделе "В добрые руки". Стройка с пьяными или спящими в бытовке сторожами и привязанными цепью к арматуре собаками — согласитесь, не лучший тандем для охраны государственных строительных объектов. При такой охране со строек "уносятся ветром" сотни тысяч долларов, а это наши налоги, наши зарплаты и пенсии. Может, разумнее было передать охрану строительных объектов спецподразделениям, на балансе которых находятся питомники со специально обученными собаками? Глядишь, и воровать будут меньше, да и порядка на стройках будет больше.

Много претензий у зоозащитников к службе отлова ГП "Фауна города". Мастера по отлову с большим стажем работы в этой должности (что недопустимо в цивилизованных странах) давно "вжились" в этот процесс и, как следствие, нарушают правила отлова и транспортировки животных, допуская жестокое обращение с животным. Где и в какой цивилизованной стране подобное возможно?

Зоозащитники не могут смириться с существованием огромного количества частных питомников по производству животных, которые не ассоциируются с добротой и милосердием и в которых тоже присутствует жестокость. Этот безудержный и никем не контролируемый бизнес процветает в нашем обществе уже много лет.

Что с нами произошло?

Безусловно, не отсутствие зоозащитного законодательства стало причиной массовой "эпидемии" жестокости и безответственности. Причина в нас самих: поменялись жизненные приоритеты, обесценилась порядочность, и жить мы стали не по совести, а по понятиям. Права Мария Эйсмонт в том, что общество надо лечить "рублем и страхом". Но это лечение может затянуться на долгие годы, если мы не устраним первопричину нашего заболевания. Я абсолютно убеждена в том, что никакое законодательство — ни уголовное, ни административное — не заставит нас быть добрыми и милосердными, не восполнит дефицит нравственности и не восстановит утерянное чувство собственного достоинства, если мы этого не хотим, если нам это не нужно и мы не считаем себя обделенными.

В странах, где зоозащитники пользуются поддержкой и пониманием в обществе, уже давно успешно решены проблемы домашних и бездомных животных. Зоозащитные программы, работающие не одно десятилетие, хорошо себя зарекомендовали, они высокоэффективные и быстро окупаемые. Так почему бы нам не перенять их опыт и не позаимствовать хотя бы часть этих программ в решении аналогичных, но наших проблем?

Я считаю, что необходимо:

— ввести дорогостоящие лицензии на разведение и продажу животных (как породистых, так и беспородных);

— принять программу стерилизации животных, их регистрации и чипирования;

Многие страны давно поставили свои подписи под Международной конвенцией о защите животных. Зоозащитники этих стран принимают активное участие в международных программах по защите сельскохозяйственных животных, дикой природы, добиваются запрета на использование животных в медицинских экспериментах и экспериментах по разработке новой косметики; добиваются открытия новых зоопарков, заказников и заповедников, где категорически запрещена охота и т.д. Все это, безусловно, возможно при поддержке государства и общества.

**Л.М.МОРОГОВСКАЯ, зоозащитник.**


1


2

1. **Ваза**. Это уникальное сооружение из людских тел появлялось на демонстрациях трудящихся 1 мая и 7 ноября. Снимок сделан 1 мая 1987 года.

2. **Андрей Вознесенский. Антимиры**. “Да здравствуют Антимиры! Фантасты посреди муры. Без глупых не было бы умных, оазисов без Каракумов...” 1975 год.

3. **Выставком.** Очередная отчетная выставка Союза художников в Минском дворце искусства. Жюри знакомится с экспозицией. 2007 год.

4. **Голуби.** 1982 год.

5. **Военный дирижер.** Украшением празднеств в советском Минске был духовой оркестр Белорусского военного округа под управлением народного артиста БССР, полковника Бориса Пенчука. 1974 год.

6. **Сельские посиделки.** Самодеятельность Минской области.

**Фотографии с выставки Юрия Иванова “Между белым и черным”.**


3


5


4


6

НУ И НУ!

# Многодетный белорус забыл дочь в придорожном кафе в Украине

“Пропажу” возвращавшийся с отдыха с семью детьми отец обнаружил, отъехав от кафе на 400 километров.

На Кировоградщине 40-летний мужчина из Беларуси забыл в кафе свою 5-летнюю дочь.

Это случилось по дороге домой. Мужчина вместе с семью детьми остановился поужинать. После все отправились в путь. Отсутствие одного из детей было обнаружено через 400 километров.

“Это случилось в Ульяновском районе. Мужчина в Украину приехал в гости только с детьми. Самому маленькому ребенку 2 года, а самой старшей — 17. Их мать осталась дома в Беларуси. Уже на обратном пути человек остановился у придорожного кафе, потому что дети захотели поесть. После ужина он сказал детям, чтобы все шли в микроавтобус. Сам остался рассчитываться за блюда. Через некоторое время хозяйка заведения вышла в зал, чтобы убрать помещения после посетителей. Вдруг открылась дверь уборной и оттуда вышла маленькая девочка. Она своим вопросом “А где мой папа?” шокировала женщину. Женщина начала расспрашивать ребенка в надежде, что она знает хоть какие-то цифры номера машины. Но зря”, — рассказала Виталина Бевзенко из управления МВД в Кировоградской области.

Владелица заведения сразу позвонила в милицию. На место происшествия выехала следственно-оперативная группа, в составе которой в тот день дежурил оперуполномоченный криминальной милиции по делам детей Роман Гулящий.

“Он расспросил девочку о том, как ее зовут и что с ней произошло. Она сказала, что ехали домой в Беларусь “Фольксвагеном” серого цвета. Ориентировка по поиску мужчины было направлена работникам ГАИ не только кировоградским, но и соседних областей, через которые, вероятно, и должна была ехать семья. Ребенка на ночь забрал домой Роман Гулящий, потому что девочка держалась за его руку и никуда не отходила. Дома жена Романа заботилась о ней, как о своей. Так что ребенок даже не плакал, спала до утра спокойно”, — сказала Виталина Бевзенко.

Отец ребенка вернулся обратно на место, где забыл ребенка, наутро.

“Мужчина вполне адекватен. Он предприниматель. Я его спросила, как так могло произойти. “Ну вот так получилось”, — объяснил смущенно. Эта ситуация похожа на ту, что была в американском фильме “Один дома”, когда многодетные родители забыли дома одного из детей”, — сказала сотрудница милиции.

Правоохранители вернули многодетному белорусу потерянную дочь. Учитывая его искреннее раскаяние, ограничились предупреждением.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# «Зялёныя»: што гэта за партыя?

*“Неяк у “Народнай Волі” прачытаў пра існаванне партыі “Зялёныя”. Што яна сабой уяўляе? Якія яе шэрагі? Хто ўзначальвае? Што ў актыве? Не чуў, каб “Зялёныя” сур’ёзна займаліся чарнобыльскімі праблемамі. А што, іх не хвалюе будаўніцтва Астравецкай АЭС — дзе іх акцыі, дзе іх змаганне з хлуснёй улад?*

*Ці не створана гэтая партыя спецслужбамі? Колькі ў нас віртуальных змагароў за народнае шчасце?*

**Сяргей ЛЕНКАВЕЦ, Мінск.**

*Каб атрымаць інфармацыю з першых вуснаў, “Народная Воля” звярнулася непасрэдна да старшыні Беларускай партыі “Зялёныя”* **Алега НОВІКАВА.**

— Партыя існуе з 1994 года, таму мне вельмі дзіўна, што ваш чытач пачуў пра нас толькі зараз, — распавядае ён. — Іншая справа, што прыкладна да 2008 года партыя мела рэгіянальны характар, і цэнтр знаходзіўся ў Гомелі са стаўкай на мясцовы актыў. Праўда, апошнія гады “Зялёныя” базіруюцца ў сталіцы. Мы ўдзельнічалі ў мясцовых выбарах, прэзідэнцкіх...

**— Колькі партыя налічвае сяброў?**

— Каля паўтары тысячы па спісах. Партыйны актыў — не больш за сто чалавек.

**— З якога часу вы ўзначальваеце партыю? І ўвогуле: хто такі Алег Новікаў?**

— Кірую партыяй з 2007 года, акрамя гэтага займаюся журналістыкай, літаратурнай дзейнасцю. Я — пісьменнік-сатырык. Экалагічнай праблематыкай займаюся даўно, таму гэтая тэма для мяне не чужая. Дарэчы, мы хочам перайсці на метады работы еўрапейскіх калег, дзе старшыня ў партыі змяняецца кожныя паўгода і ёсць сістэма сустаршынства. Паспрабуем унесці змены ў Статут, хоць вельмі накладна праводзіць з’езды кожныя шэсць месяцаў. Мы не такая багатая структура.

**— За кошт чаго жыве партыя?**

— Ёсць членскія ўзносы, нейкія асабістыя ахвяраванні... Але ў нас амаль усе недзе працуюць яшчэ.

**— Наш чытач абурaецца, што “Зялёныя” сур’ёзна не займаюцца чарнобыльскімі праблемамі, іх не хвалюе будаўніцтва Астравецкай АЭС...**

— Мы пастаянна рэагуем на нейкія сітуацыі, калі справа тычыцца Чарнобыля. І ў тых жа “Чарнобыльскіх шляхах” бралі ўдзел, хоць гэтыя акцыі не заўсёды праходзяць пад лозунгамі рэвізіі Чарнобыля. Зараз у чарнобыльскай зоне дапамагаем школам устанаўліваць апараты па ачышчэнні вады. І як тут лічыць, займаемся мы чарнобыльскай праблематыкай ці не? Таксама праводзім маніторынг прадуктаў, якія робяць у “зоне”. Гэта праблема ці не?.. Што тычыцца Астравецкай АЭС, то наша партыя ўваходзіць у блок Беларускай антыядзернай кааліцыі, у якой аб’ядналіся ўсе, каго хвалюе праблема будаўніцтва АЭС. І робім мы ўсё, што ў нашых сілах... Калі ў некага ёсць больш слушныя прапановы, то калі ласка — прыходзьце да нас, будзем змагацца разам. Зрэшты, наша партыя з’яўляецца сябрам Еўрапейскай партыі “Зялёныя”, а гэта, на мой погляд, лепшы паказчык работы. Так, у нас хапае праблем, магчыма, памылак. Але не памыляецца той, хто нічога не робіць.

**Гутарыў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДАСЬЕ

**Алег НОВІКАЎ.** Нарадзіўся ў 1972 г. у Салігорску. Закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці “гісторык”.

Браў удзел у незалежным прафсаюзным руху, сузаснавальнік газеты “Навінкі”, якая ў 2003 г. пасля папярэджанняў Міністэрства інфармацыі практычна перастала выходзіць.

Працаваў над поўнаметражнай палітычнай камедыяй “Случай с пацаном”, фільмам “Пыль”, лічыць сябе пісьменнікам-сатырыкам.

З 2007 г. — старшыня Беларускай партыі “Зялёныя”.

ТЫМ ЧАСАМ

# Два мільёны за велапрабег

*Менавіта такі штраф атрымала днямі арганізатар Мінскага велапрабегу стыляг. Ірыну Бійнік абвінавацілі ў арганізацыі несанкцыянаванага мерапрыемства.*

Беларуская партыя “Зялёныя” заявіла аб гатоўнасці выплаціць гэты штраф.

“З выхадам у свет новага закона аб масавых мерапрыемствах было відавочна, што шматлікія мерапрыемствы, якія праходзяць без адмысловых працэдур па рэгістрацыі ў гарвыканкаме, павінны падпадаць пад пільную ўвагу праваахоўных органаў, — *гаворыцца ў партыйнай заяве.* — Але ні вяселлі з аўтапрабегамі па Мінску, ні дваровыя спаборніцтвы па хакеі, якія, згодна з новым законам, таксама павінны ўзгадняцца загадзя, ніколі не былі нагодай для судовага разбіральніцтва ці штрафавання кагосьці з арганізатараў.

Дык чаму так сталася, што менавіта арганізатара крэатыўнай роварнай акцыі за правядзенне выдатнага мерапрыемства, якое стала пазітыўнай інфармацыйнай нагодай для СМІ і прадставіла Мінск толькі ў добрым свеце, пакаралі штрафам у 20 базавых велічынь?

Сыходзячы з дзейсных норм заканадаўства, пад тую ж самую адказнасць павінны падпадаць кожнае вяселле, хатняе свята з колькасцю наведвальнікаў больш за тры ці нават несанкцыянаванае агульнае шпацыраванне калоны навучэнцаў акадэміі МУС па вуліцах Мінска.

Прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці арганізатара велапрабегу мінскіх стыляг сведчыць аб несумленнасці, выбарнасці і праўладнай падпарадкаванасці правасуддзя ў нашай краіне”.

**Аліна ВЕТРАВА.**

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# Сяргей БАЛЫКІН: «Бізнесу пугай не дапаможаш...»

*Пра тое, што хочуць беларускія прадпрымальнікі ад улад і якія перамены патрэбны для паляпшэння бізнес-клімату ў краіне, у рамках “Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю” мы гутарым са старшынёй Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва* ***Сяргеем Балыкіным***.

**— Як сцвярджаюць многія прадпрымальнікі і эксперты, бізнес-клімат у Беларусі далёкі ад дасканаласці. З іншага боку, наша краіна ў міжнародным рэйтынгу Doing business апошнія гады актыўна караскаецца ўгару. Дык як аб’ектыўна выглядае сённяшні стан прадпрымальніцкага асяроддзя ў Беларусі?**

— Калі ацэньваць бізнес-клімат у Беларусі, то сапраўды можна адзначыць, што ён апошнія гады паляпшаецца. Але паляпшаецца ён па адной простай прычыне — пагаршаць яго ўжо проста не было куды. Сітуацыя была настолькі дзікай і жахлівай, што любыя змены ўжо з’яўляліся крокам да лепшага. І калі раней бізнес-клімат быў вельмі дрэнны, то цяпер ён палепшыўся і стаў проста дрэнны.

Акрамя таго, пры складанні гэтых рэйтынгаў людзі кіруюцца фармальнымі крытэрыямі. Калі яны будуць аналізаваць наша заканадаўства, то сапраўды можна сказаць, што яно палепшылася. Аднак акрамя ўласна законаў ёсць яшчэ і падзаконныя акты, практыка прымянення законаў, сістэма адносін дзяржавы з бізнесам. Напрыклад, нідзе не прапісана, што падатковыя органы павінны весці з прадпрымальнікамі душаратавальніцкія гутаркі, цікавіцца падзеннем выручкі і гэтак далей. Такія нефармальныя праявы істотна пагаршаюць умовы вядзення бізнесу.

**— Віцэ-прэм’ер Пётр Пракаповіч нядаўна заявіў, што прыватны бізнес Беларусі ў наступнай пяцігодцы павінен вырабляць 50% ВУП. Ці сапраўды сённяшняя эканамічная палітыка улад можа прывесці да такога дасягнення?**

— У кожнага сваё разуменне стымулявання прадпрымальніцтва. Калі фармальна палічыць прыватным бізнесам усе гэтыя напаўдзяржаўныя паўпрыватызаваныя прадпрыемствы — тады так, можа быць. Калі ж казаць пра рэальны малы бізнес — то пры цяперашняй уладзе гэта малаверагодна, я нават сказаў бы, неверагодна. Наша ўлада любіць усталёўваць розныя паказчыкі не для рэальнага жыцця, а для таго, каб даваць справаздачу — незразумела толькі перад кім. І можа скласціся такая сітуацыя, што ўлада пугай сама будзе гнаць бізнес у нейкую светлую будучыню.

**— Якія заканадаўчыя і адміністрацыйныя перамены ўсё ж патрэбны беларускаму бізнесу?**

— Лепшая рэформа тут — гэта адсутнасць рэформаў. Насамрэч, чым менш дзяржава будзе ўмешвацца ў рэгуляванне бізнесу, тым менш яна пакіне сабе функцый — тым лепш будзе для бізнесу, перадусім для малога. Для бізнесу ў нашай краіне неабходна ўсяго некалькі умоў. Першая — адсутнасць гіпертрафаванай дзяржаўнай апекі, дробязнага кантролю і, як следства гэтага, прадастаўленне гарантый захавання ўласнасці і стабільнасці.

У нас у бізнесе дзве праблемы — адсутнасць гарантый і тое, што правілы гульні пастаянна мяняюцца і часцей за ўсё не ў лепшы бок. Дзяржава занадта шмат і часта пагаршае гэтыя правілы гульні, і таму ў бізнесе няма гарантыі захавання ўласнасці, гарантыі стабільнасці.

**— Лукашэнка ў розныя гады па-рознаму выказваўся пра прадпрымальнікаў — і “вашывыя блохі”, і тое, што ён гатовы паціснуць руку апошняму прадпрымальніку...**

— Лукашэнка казаў і зусім іншыя фразы — *“прадпрымальніцтву ў Беларусі быць”, і “прэзідэнт — лепшы для вас дах”.* Я магу цэлы такі цытатнік скласці.

**— Тым не менш — як бы вы сёння абазначылі стаўленне ўлад да прадпрымальнікаў? Улада проста вымушана іх трываць або разглядае іх як эканамічную будучыню?**

— Я думаю, ва ўлад сёння няма выразнай канцэпцыі эканамічнага развіцця краіны. У Лукашэнкі стаўленне да прадпрымальнікаў складанае і напоўненае савецкімі стэрэатыпамі. Чыста тэарэтычна ён нібыта любіць прадпрымальнікаў, але ён любіць нейкіх абстрактных прадпрымальнікаў, якіх сам сабе прыдумаў, — несвабодных, залежных, “чэсных”. Гэты вобраз хутчэй нагадвае арандатараў у калгасе.

А рэальны бізнес улады хутчэй трываюць як нейкую вымушаную меру. Камусьці проста дазваляюць існаваць, а да асноўнай масы рукі не даходзяць.

**— А ў саміх прадпрымальнікаў ёсць нейкае бачанне ідэальных адносін паміж уладай і бізнесам?**

— Па вялікім рахунку дзяржава павінна гуляць ролю “начнога вартаўніка” — усталяваць правілы гульні і сачыць за іх выкананнем. А ўжо суб’екты гаспадарання паміж сабой самі будуць ўзаемадзейнічаць. Так што мы ўпіраемся ў тыя рэчы, якія ў цывілізаваным свеце дзейнічаюць ужо сотні гадоў, — свабода слова, падзел улад, недатыкальнасць уласнасці і іншае.

Калі ж казаць пра рэальны беларускі бізнес, у большасці сваёй ён досыць абыякавы да палітыкі, да грамадскіх працэсаў. І часцей за ўсё кіруецца імгненнай выгадай — як, зрэшты, і большасць беларусаў.

**Віталь АСІПОВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 ВЕРАСНЯ 2013 г.

**ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ**

## Комитет Сената США одобрил резолюцию по Сирии

Она санкционирует применение военной силы. Теперь резолюция будет поставлена на голосование в верхней палате американского Конгресса в полном составе. Ожидается, что это произойдет уже на следующей неделе.

## Президент Ирана Хассан Рухани поздравил евреев всего мира с еврейским Новым годом — праздником Рош Ха-Шана

Рухани сменил на посту президента Ирана Махмуда Ахмадинежада, известного своими антисемитскими заявлениями.

В тот же день Рухани призвал консервативных клириков в Совете экспертов изменить их ограниченное и предвзятое отношение к обществу. Ранее иранский президент заявил, что готов предпринять шаги, чтобы ослабить обеспокоенность стран Запада ядерной программой Тегерана.

## Китай: чиновника приговорили к 14 годам тюрьмы за дорогие часы

Китайский чиновник, ставший известным из-за фотографий, где он улыбается на месте ДТП, приговорен к 14 годам тюрьмы за коррупцию. Суд признал Ян Дацая виновным в получении взятки и во владении "имуществом неясного происхождения", которое будет конфисковано в пользу государства, сообщило агентство Синьхуа.

Блогеры обнаружили, что на той фотографии, а также на многих других, у Ян Дацая дорогие часы элитных марок. Это и стало причиной расследования. По мнению интернет-пользователей, чиновник не мог позволить себе столько дорогих часов на зарплату государственного служащего.

## Боливийскому долгожителю исполнилось 123 года

Самый пожилой человек на Земле, как выяснилось, живет в Боливии. Кармело Флоресу исполнилось 123 года. Всю жизнь он провел высоко в горах. Очков не носит, слуховым аппаратом тоже не пользуется. Единственное, на что жалуется долгожитель, — это память. С годами даже стал забывать свой точный возраст.

**ИНТЕРЕСНО**

# Как проходит саммит «двадцатки»?

*Саммит "Большой двадцатки" начался в Санкт-Петербурге. G20— экономический форум, но на этот раз главной темой стала Сирия.*

Кризис на Ближнем Востоке, а также дело Сноудена серьезно охладили отношения между Москвой и Вашингтоном и даже повлияли на протокол. Рассаживали лидеров государств не по русскому, а по английскому алфавиту — так, чтобы между Владимиром Путиным и Бараком Обамой оказались сразу пять кресел.

На страны этого элитарного клуба приходится две трети населения планеты и 90 процентов мирового ВВП. В то же время среди стран "двадцатки" нет единой позиции по таким вопросам, как конфликт в Сирии и возможные потрясения на рынках стран с развивающейся экономикой.

На саммит в Петербург прибыли не только лидеры стран, но и семь глав международных организаций. Саммит проходит в Константиновском дворце в Стрельне. Разместить всех участников в Стрельне во Дворце конгрессов — коттеджах на берегу Финского залива — не представилось возможным. Поэтому особенно большие делегации, как у США и Китая, частично разместились в центре Петербурга.

По данным РБК Daily, американцы поселились в отеле "Балтийская звезда" в Стрельне. Барак Обама, который отказался селиться в домик рядом с Финским заливом, остановился в Константиновском дворце.

20 коттеджей в Стрельне были построены в 2003 году к саммиту Россия — ЕС. В 2006 году здесь останавливались президенты стран, приехавшие на саммит "Большой восьмерки". Каждый домик носит имя одного из российских городов и оформлен в соответствующем стиле.

В пригороде Петербурга Стрельне проживает 12,5 тыс. человек, и на время саммита въезд на территорию поселка возможен только по спецпропускам.

Как выяснили журналисты, кормят гостей саммита, в отличие от Северной Ирландии и ЮАР, где проходили предыдущие форумы, бесплатно. Еда на любой вкус — от рыбы до вегетарианского меню. В первый день после обеда участники форума любовались водно-музыкальным представлением на фоне Большого каскада фонтанов Петергофа. Проведение саммита обойдется России, по предварительным оценкам, в 2 миллиарда рублей.

**Сергей ПЕТРОВ.**

**ВОПРОС РЕБРОМ**

## Кто говорит правду?

**Госсекретарь США Джон Керри: США располагают доказательством применения химоружия под Дамаском**

Об этом заявил в воскресенье госсекретарь Джон Керри в интервью телеканалу NBC. Госсекретарь сообщил, что американские эксперты получили пробы, которые свидетельствуют об использовании зарина во время химической атаки 21 августа под Дамаском. "Волосы и кровь показали позитивные результаты на следы газа зарина", — сказал Керри.

**Президент России Владимир Путин: говорить о том, что химоружие применило сирийское правительство, — дурь несусветная**

Президент Владимир Путин отрицает, что режим Башара Асада применял химическое оружие против повстанцев в Сирии. Это заявление Путин сделал во время рабочей поездки во Владивосток незадолго до того, как президент США Барак Обама объявил о решении нанести военный удар по Сирии после одобрения в Конгрессе.

"В условиях наступления армии Сирии говорить о том, что химоружие применило сирийское правительство, — дурь несусветная", — заявил Путин.

Оба утверждения изложены на сайте "Голоса Америки".





## Умные часы

**Компания Samsung представила "умные часы" под названием Galaxy Gear 4 сентября на презентации в Берлине. Они будут рассчитаны на молодежь, следующую модным тенденциям. Часы будут служить дополнением к смартфону или планшету, укрепят и обогатят сложившийся опыт взаимодействия с мобильными аппаратами.**

**ТАМ, ЗА БУГАМ**

## 17 верасня можа стаць Днём сібірака

*Дата пачатку савецкай агрэсіі на Польшчу 17 верасня 1939 года можа стаць Днём сібірака. Гэтага дамагаюцца польскія ахвяры савецкай дэпартацыі і іх нашчадкі.*




Сярод варыянтаў разглядаецца таксама дата 10 лютага, калі ў 1940 годзе пачаліся першыя дэпартацыі грамадзян Польшчы на расійскую Поўнач. Дэпутаты польскага парламента пакуль не прынялі рашэнне з нагоды прагназуемага Дня сібірака ў Польшчы. Старшыня праўлення Саюза сібіракоў **Тадэвуш Хведзь** сказаў у інтэрв'ю "Польскаму радыё", што сібіракі хочуць адзначаць сумную гадавіну 17 верасня. Ён заўважыў, што такім чынам можна будзе ўшанаваць памяць аб гадавіне савецкага нападу на Польшчу і аб трагедыі 1.350.000 дэпартаваных з усёй Польшчы.

Ужо на працягу 23 гадоў польскія сібіракі шануюць памяць аб дэпартаваных у гадавіну нападу Савецкага Саюза на Польшчу. Зараз яны дамагаюцца афіцыйнага ўстанаўлення дня памяці.

**Алесь ПЯТРОЎ.**

## Польскага міністра выклікалі ў пракуратуру з-за дарагога гадзінніка

Міністра транспарту Польшчы **Славаміра Новака** дапыталі ў варшаўскай пракуратуры ў сувязі з яго дэкларацыяй аб даходах. Пры разліках з падатковай службай ён не ўпісаў у дэкларацыю дарагі гадзіннік. Некалькі месяцаў таму міністр тлумачыў, што не ўпісаў яго ў дэкларацыю з-за таго, што "памяняўся гадзіннікам з сябрам".

Гэта выклікала скандал. Міністр запэўніваў, што адзіны дарагі гадзіннік ён атрымаў у падарунак ад жонкі і бацькоў. Пасля апісання гэтай справы ў прэсе міністр дадаў гадзіннік да гадавой дэкларацыі, але пракуратура пачала следства. Па гэтай справе, апрача Славаміра Новака, будуць дапытаны сведкі.

**КІЕЎ—БРУСЕЛЬ**

## Ці выканае Украіна ўмовы пагаднення з ЕС?

Пасланнікі Еўрапейскага парламента, былы польскі прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі і былы старшыня Еўрапарламента Пэт Кокс, правялі ў Кіеве перамовы з лідарамі апазіцыйных партый Арсеніем Яцэнюком і Віталем Клічко, з прэзідэнтам Украіны Віктарам Януковічам. Падпісанне Украінай пагаднення аб асацыяцыі з Еўрапейскім Саюзам павінна адбыцца ў лістападзе ў Вільнюсе, на саміце "Усходняга партнёрства".

Але, каб так сталася, Вярхоўная Рада Украіны павінна засяродзіцца на распрацоўцы законаў, якія Еўрапейскі Саюз назваў умовамі падпісання дамовы аб асацыяцыі. Украіна павінна ўнесці папраўкі ў функцыянаванне судовай сістэмы, абмежаваць паўнамоцтвы пракуратуры, унесці змяненні ў выбарчае заканадаўства і правесці галасаванне ў некалькіх акругах, дзе летась не ўдалося абраць прадстаўнікоў у парламент.

Юлія Цімашэнка ўсё яшчэ ў турме — гэтая праблема таксама павінна быць вырашана. Шляхам перамоў Квасьнеўскі і Кокс імкнуцца дабіцца вызвалення былога прэм'ер-міністра Украіны Юліі Цімашэнка, асуджанай да сямі гадоў турэмнага зняволення. На думку назіральнікаў, украінскія ўлады, каб не страціць твару, маглі б даць дазвол на лячэнне Цімашэнка за мяжой.

## Архітэктурныя шэдэўры

**У кафедральным саборы горада Бразіліа ёсць тунелі, лесвіцы і неверагодныя вітражы. Будынак нагадвае вялізныя рукі, працягнутыя ў неба.**



**Канструкцыя галоўнага бахайскага храма Індыі нагадвае кветку лотаса, у якой 27 пялёсткаў.**



**Французскі тэматычны парк Футураскоп падобны на камень з Месяца, які грукнуўся на зямлю.**



**ИХ ОПЫТ**

# Шведская модель успеха

В последние четыре года Европа была источником неослабевающего пессимизма. Кризис евро поставил под угрозу мировую экономику. Большинство американцев и многих европейцев раздражала необходимость решительно реагировать на неудачи некоторых европейских государств.

Швеция, однако же, сумела избежать кризиса, бушевавшего по соседству от нее, и быстро вернуться на путь устойчивого роста. Она представляет собой надежную модель реформ, которые необходимы большей части Европы и многим другим странам мира, в том числе США.

Поэтому решение президента Обамы посетить Швецию и встретиться со скандинавскими премьер-министрами накануне саммита G20 можно назвать важным и многообещающим.

В 1968 году Швеция стала третьей в списке самых богатых стран мира, а в 1970—1980-х годах она превратилась в настоящее государство всеобщего благосостояния и образец того, как нужно управлять экономикой. Согласно результатам исследования, проведенного в 2012 году Исследовательским институтом промышленной экономики, в 1991 году она спустилась до 17-го места в рейтинге совокупных доходов и пережила тяжелый кризис финансового рынка и рынка недвижимости. Надо отдать ей должное, Швеция сумела виртуозно поменять свой курс и стать образцом разумной экономической и социальной политики.

С 2006 года темпы экономического роста Швеции намного превышали темпы роста США и других стран Западной Европы. Согласно данным Международного валютного фонда и Организации европейского сотрудничества и развития, в Швеции сейчас самый низкий индекс инфляции в Европе, она ежегодно имеет положительное сальдо госбюджета, ставки корпоративного налога там гораздо ниже, чем в США, а на исследования и развитие она тратит гораздо больше денег, чем мы. Шведские компании способны выдержать самую жесткую конкуренцию на мировом рынке, и она может похвастаться значительным активным сальдо по текущим расходам.

После кризиса Швеция сократила государственные расходы на 20% от своего ВВП, резко урезав размер социальных выплат, таких как пособие по безработице и пособие по болезни. Ей удалось сократить государственный долг вдвое (сегодня ее долг в пропорции к объемам ее экономики меньше долга США в два раза). Швеция сократила предельные ставки налогов и упростила налоговый кодекс настолько, что сейчас двум третям шведских граждан достаточно по телефону подтвердить правильность своей налоговой декларации, автоматически составляемой налоговыми органами. Швеция провела коренные реформы банковской системы, что позволило ей выйти невредимой из мировых финансовых кризисов.

Швеция также провела структурные реформы. Ее правительства снимали государственные ограничения с одного рынка за другим и провели приватизацию, когда рыночные условия позволили. Все дети в Швеции получают ваучеры, чтобы их родители могли выбрать, в какой школе будет учиться их ребенок — частной или государственной. Шведская социальная защита стала по-настоящему страховой системой, чем она отличается от системы оплаты счетов по мере поступления с массой необеспеченных обязательств, действующей в США.

Сегодня Швеция — это государство социального благосостояния, и государственные расходы до сих пор составляют половину ее экономики. Государство финансирует образование и здравоохранение, что характерно для всей Европы. В прошлом Швеция не стала свертывать свою социальную систему, однако помимо резкого сокращения расходов на нее правительство провело макроэкономические и структурные реформы, чтобы сделать ее жизнеспособной, и в значительной степени увеличило ее эффективность, приватизировав многие услуги в сфере образования и здравоохранения. Принцип, которым руководствуется правительство, заключается в том, что успешное общество всеобщего благосостояния должно быть консервативным в вопросах финансов и эффективным в вопросах администрирования. Это и есть тот урок Швеции, которым стоит воспользоваться странам, охваченным кризисом.

Такая политика, основанная на конкуренции и открытости, проводилась большинством шведских политических партий. Можно сказать, что в отношениях между ними царит интеллектуальный консенсус. Социал-демократы продолжили реформы, начатые правоцентристами, и ввели несколько реформ от себя. На пике мирового кризиса профсоюз металлистов согласился с сокращениями заработной платы, чтобы обеспечить свое процветание в долгосрочной перспективе, а их лидер стал председателем Социал-демократической партии трудящихся. В 2010 году шведское правительство было переизбрано на второй срок, тогда как большинство европейских правительств терпели поражения вследствие кризиса. Издание Financial Times назвало Андерса Борга лучшим министром финансов 2011 года.

Сегодня Швеция представляет собой сочетание общества всеобщего благосостояния, экономики свободного рынка и высокоэффективного управления. Другие скандинавские государства стараются проводить подобную политику и уже достигли в этом смысле значимых успехов (хотя и не таких впечатляющих, как Швеция). Этот субрегион стабильности демонстрирует, что при условии правильной политики европейские государства могут процветать внутри еврозоны (Финляндия и Дания) и за ее пределами (Швеция и Норвегия).

**Подготовил к печати Алесь ДРАБЧУК.**

